ПОСЛЕРОЖДЕСТВЕНСКАЯ БАЙКА

# ИОАН ЯН — ГЕРОЙ ПЕРА

Ну, что ж, начнем пожалуй так:
Жил в городке на букву „К"
Простой парнишка. Не дурак.
Судьбой, заметим, не обижен:
Дружил и даже очень с книгой.
Еще стишки писать умел
И в тех стишках поднаторел.
Писал округло, зычно, гладко,
Но тем не менее с оглядкой.
О том, чтоб слушался он власть,
Ему не раз твердила мать:
„Сын, против власти что писать –
Как против ветра стать и ..." (Но
Опустим слово здесь одно).
Он научился шаркать ножкой
И прогибаться понемножку.
И с барского стола все крошки
Наденным хлебом стал считать.
И научился продавать:
Способность врать – ту за похлебку,
Стишки – за ржавый хвост селедки.
Друзей – за счастье выпить водки
В кругу имущих. Как не пить
За право подлости творить!
Вот здесь сказать нужно и это –
Заботил очень секс поэта.
(Хоть, помните, в стране Советов
Все утверждали – секса нету!)
На женщин глаз любил он класть!
На то использовал и власть.
У мужа мог жену украсть,
Использовать – и тут же бросить.
И зазывал частенько в гости
В свой кабинет все новых лиц:
Из институтов выпускниц–
Красивых молодых девиц.
И ласки женской добивался
Тем, что пугал, грозил, кусался.
Ещё одно нужно отметить –
За подлости свои за эти
Наш секс-геройчик не ответил!
А власть – взвела на пьедестал,
И вот „заслуженным" он стал!
Он знал лишь то, что знать велели
И видел то, куда смотрели
Его хозяева. Расстрелы
Людей невинных, голод людский
Не волновали. Тут был глух он.
Вот так и прожил жизнь – все гладко.
И врал теперь он без оглядки.
Он был уверен, что порядки
Все существующие – вечны.
Вот и ошибся же, конечно.
Как ветры перемен задули –
Он трясся, словно волк под дулом.
А показалось – власть вернулась,
Враз осмелел и план состроил:
„Вот их в Сибирь уж мы погоним!"
Опустим годы – много грязи.
Мы о сегодняшнем расскажем.
Уж стар он стал. Давно не молод
Однако стихоплетный голод
Ещё не раз услышит город.
Дожился до седых волос,
А вот сгодился – верный пес!
И стал ли ум его с изъяном,
(Про то сказать не можем прямо)
Назвался летописцем Яном!
И стал строчить стишки и сказки
По четкой правящей указке.
Куда как нужен властным дядям
Такой, что лает. И не глядя
Строчит пером. Зато ведь гладят
По шерстке и по голове.
„Ах, лай, ах, нет тебя умней!"
Брехни сюда – он сразу в позу,
Слюна у рта – так лает грозно!
Язык подвешен! Папа Крестный
Давно подумал за него:
За что тут лаять, на кого...
Иль скажут – сказку сочини-ка!
А он и рад, не шит же лыком.
Из грязи сотворится мигом
На лжи замешенная сказка,
Где злость и ненависть – все в связке.
Писал посредственно и много:
Мог оплевать запросто Бога,
Прославить подлеца любого
И оду вору накрапать...
А что – коль врать, так сильно врать!
...Эх, глупый Ян, слепая шавка!
Ей Богу, как тебя мне жалко,
Что совесть за столом ты барским
На кость идеи променял...
Что в жизни понял? Что узнал?
Ян – летописец! Шавки служат
Пока их голос будет нужен.
Ну, а потом... Да бросят в лужу!
И первый камень (я не вру!)
В тебя хозяева швырнут!
Ну, а мораль стара, как мир:
Закончится сей гнусный пир,
И призовет Господь на суд,
И по делам там воздадут.
Увы, там званья не спасут!
Коль гавкал шавкой – будь в ответе
Быть псом тебе и на том свете!

**С. МИКОЛИН.**

● ЭКАНАМІЧНЫ ТУПІК?

# Куды крывая вывела?

## *Жывёлагадоўля*
















## *Прамысловасць, будаўніцтва*










### ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

Тое, што вы бачыце перад сабой, шаноўныя чытачы, раней называлася ўпэўненымі крокамі пяцігодкі. Мы ўзгадалі, што 1996 год есць чарговы новы год па сталінскаму летазлічэнню ў пяцігодках і вось вырашылі паглядзець самі і вам паказаць: што там у нас за вынікі. Такіх графікаў, што адлюстроўваюць гаспадарчую дзейнасць раена ў цэлым за пяць год, вы не знойдзеце нідзе. Каб скласці іх, нам давялося перагледзець газеты, пачынаючы з 1990 года...

За гэтыя пяць год адбылося шмат значных падзей: першыя сапраўдныя выбары ў Беларусі; абранне першага беларускага Прэзідэнта; майскі рэферэндум і змена нацыянальных сімвалаў; абранне другога дэмакратычнага Вярхоўнага Савета.

А яшчэ выходзілі і закрываліся новыя газеты; мяняліся рэдактары і назвы выданняў; з'яўляліся і знікалі тэлепраграмы і іх вядучыя. За пяць гадоў мы даведаліся, што мы – розныя. Мы зразумелі, што адрозненне – не падстава страляць адзін у аднаго. Шкада, што не ўсе. Мы навучыліся думаць, і думкі свае не сталі ўтойваць. І як вынік усіх гэтых і іншых падзей – новая, незалежная газета ў раене.

Названыя падзеі – на фоне вось гэтых графікаў, на фоне катастрафічнага абвалу ва ўсіх сферах дзейнасці. І ці варта ва ўсім вінаваціць развал Саюза? Сельская гаспадарка пачала прыходзіць у заняпад яшчэ ў 1990 годзе... Абвальнае падзенне ў прамысловасці, на думку многіх кіраўнікоў, – следства непамернага падаткаабкладання прымысловых прадпрыемстваў. Што можна будаваць, чаго чакаць, калі амаль стаць прамысловасць?

Глядзіце, параўноўвайце, думайце... Куды ісці Беларусі?..

